№ 16. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопіс

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 16 (108). Год II. Вільня, 23 лютаго 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## 22 лютаго.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На палудні ад Армант'ер пасьля сільнай артылерыйскай падгатоўкі некольні англіцкіх рот уварваліся на нашы пазыціі. Яны выкінуты адтуль сільнай контратакай. Пры ачыстцы акопоў мы знайшлі 200 забітых англічан, а 39 узялі ў палон. Разведачные наступленьня ворагоў на заходзі ад Марнотон, на поўдні ад каналу Лябассэ і між Анкр і Соммай не ўдаліся.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На палудзенным заходзі ад Рыгі і на палудзенным беразі возера Нароч адбіты расейскіе атрады сілай да аднэй роты.

Пры Лабусах, на Шчары і ў некольніх мейсцох між Днестрам і лясістымі Карпатамі былі ўдачные опэраціі нашых патрулёў.

На фронтах эрц-гэрцога Іозэфа і Макензэна пры сьнежных мяцеліцах незначная баевая работа.

*Македонскі фронт:* На ўсходзі ад Вардару англічане прабавалі ўмацавацца перад нашай пазыцией. У бітве ручнымі гранатамі яны выкінуты адтуль.

## Умова між Расеей і Аустрыей.

БЭРЛІН. Між Аўстрыей і Расеей зроблена умова аб памешчэньні хворых палонных у нэутральных краёх. Сухотнікоў афіцэроў будуць пасылаць у Швэйцарыю, іншых хворых салдатоў і афіцэроў—у паўночные стараны. Выбіраць хворых будзе мешаная камісія пры дактарох з нэутральных старон.

## Рэакція у Расеі расьце.

КОПЭНГАГА. «Бірж. Вед.» даносяць, што расейскае міністэрство ўнутрэных спраў апрацовывае праект закона дзеля перастройкі да грунту ўсей урадовай сыстэмы. Глаўная мэта праекту—узмацаваць сілу правіцельства дзеля змаганьня с паступовым рухам.

Газэта далей кажэ, што міністэр унутрэных спраў нідаўна выказаў губэрнатарам сваё нездаволеньне с прычыны слабасьці цэнзуры у правінціі і загадаў ім акуратна спаўняць прыказы правіцельства.

## Сноудэн за мір.

РОТТЭРДАМ. У Ніжняй Палаці ў Англіі галава работнікоў Сноўдэн сказаў прамову, гаворачы, што цяпер вайна не падбліжаецца да канца. Сноўдэн думае, што вайна скончыцца ад утраты сіл у ўсіх, і яна ня будзе мець становучаго канца. Ен радзіць вясьці перэгаворы.

## Нездавольство між саюзьнікамі.

БЭРН. Француская газэта «Bataille» пішэ:

„Францiя сплывае крывёй, а тым часам Англія мае вельмі добрае здароў'е, бо ужывае дзеля вайны толькі лішэк сваіх сіл".

## Нямецкая валюта у Польшчы.

КАРАЛЕВЕЦ. Паводлуг нідаўна выданых новых загадоў аб валюці, магістрат места Варшавы улажыў новы местовы бюджэт у марках. Усе рахункі, пэнсіі і іншые выдаткі надалей павінны аплачывацца толькі ў марках.

## Аб будучыне Польшчы.

ВАРШАВА. «Głos Stolicy» занімаецца экономічнай будучынай новаго Польскаго гасударства. Прамышленасць можна паддзержаць адпаведнымі спосабамі, даючы казённые і грамадзкіе заказы. Сельская гаспадарка мае ясную будучыну с прычыны павялічэньня збороў пры інтэнсыўнай сыстэме. Для таргоўлі вельмі выгодна географічнае палажэньне Польшчы.

## Работа жыдоускіх камітэтоу.

ВАРШАВА. «Жыдоўск. Слово» пішэ аб працы жыдоўскай абшчыны ў васьмі бюро помачы ў Варшаве, каторые ў 1916 гаду апекаваліся 24.884 сем'ямі, патрэбуючымі помачы,—разам 148.000 душ. Ня гледзячы на невялікіе запасы грошы, гэтые бюро раздавалі безпрацэнтные пазыкі, аднаразовые і пэрыодычные падмогі, вялікае чысло абедоў, малако і лекі.

## Высокіе падаткі на вугаль.

БЭРЛІН. У парлямэнт пададзен праект налажыць на прадуцэнтоў і імпортэроў падатак ад вугальля, прывожэнага з заграніцы, лічучы 20 працэнтоў вартасьці вугальля.

## „Добрые весьці".

Ва ўсе часы народные рухі да волі, узнімаўшыеся ў заходняй Эуропе, жывым эхам адбіваліся ў нашым Краю. Пачынаючы ад вялікай францускай рэвалюціі, грамадзянство Беларусі і Літвы перэжывало разам з Заходам усе выступленьня народных масс за волю,—і на гэтым грунці мы бачым тут зачаткі руху проці паншчыны, бачым цэлы рад прыпадкоў, калі больш сьветлые прэдстаўнікі нашаго грамадзянства сваей ахвотай адрэкаліся ролі угнетацелёў сваіх братоў і звальнялі сваіх селян ад прыгону. Адгалоскі заходня эўропэйскіх народных рухоў знайшлі для сябе мейсцо і ў краёвай літэратуры, а яркім прыкладам гэтаго можэ служыць вядомы беларускі верш слаўнаго земляка нашаго, Владыслава Сырокомлі, ў каторым цаэт вітае здарэньня 1848 году:

„Здаровы будзьце, добрые весьці!
Там, на Заходзі, праліваюць кроў,
Б'юцца для славы, свабоды і чэсьці
І робяць вольных людзей з мужыкоў!..."

Прайшло больш за паўсотні гадоў с таго часу, як і ў нас счэзла ненавісная паншчына. Але за той час узмацавалася іншая няволя народу вашаго: духовая і экономічная.

Народ беларускі, ешчэ ўчора ня ведаўшый, хто ён ёсць, якое яго імя, сягоньня збудзіўся да нацыянальнаго жыцьця. Ешчэ ўчора ён пакорна годзіўся с тым, што да праяў яго нацыональных асобеннасьцей «вярхі» аднасіліся с пагардай, ды прасьледавалі іх; але сягоньня беларусы пачулі, што яны — такіеж людзі, як усе іншые, а разам с тым востра адчуваюць увесь пажар крыўды, якую ім чыніць нацыональны уціск, нацыональная няволя. Яны ўбачылі, што пад панаваньнем чужынцоў іх абіраюць ня толькі з іх духоваго багацьця, але і з матэр'яльнаго: расейская гасударственая сыстэма высысала ўсе сокі з нашаго Краю, не даваючы нашаму народу развіваць яго творчые сілы, прымушаючы цэлые грамады сыноў яго шукаць хлеба ў чужыне — ў тым самым часі, як хмары чужынцоў наеждҗалі да нас і багацелі нашым коштам. І, разумеючы ўсё гэта, народ наш пачаў ізноў звертаць вочы на Заход — туды, дзе бачылі прызнаньне правоў усіх націй, дзе народы самі сабой упраўляюцца.

Калі узнялася сучасная вайна, калі загрымелі першые стрэлы, — народ наш зразу ўстрэпянуўся, і першая думка у ўсіх сьведомых беларусоў была: што нам можэ даць гэта вайна?—бо нічога страціць мы ўжо не маглі. І калі ваенная хваля пачала набліжацца да нас з Заходу — ўсё бліжэй і бліжэй, разам з ею расьлі ў сэрцах нашых надзеі на тое, што яна і гэтым разам, як калісь, прынясе нам добрую весць — весць аб волі для нашаго Краю і народу.

Урэшці ваенная хваля дакацілася да нас, перэкацілася цераз добры кусок зямлі нашай, — а жыцьцё апошніх паўтары году паказало, што надзеі нашы маюць пад сабой добры грунт. Хоць цяпер — пакуль ешчэ ліецца кроў— мы перэжываем дужа цяжкіе дні; хоць ешчэ многа цяжкіх момэнтоў прыдзецца нам перанесьці; хоць мо' шмат хто не дажджэцца канца вайны, — ўсё-ж такі ўжо цяпер перад нашымі вачыма вырысовываецца ясная, шчасная будучына. Воля йдзе к нам, як прыйшла яна да нашых суседзёў — палякоў, і мы ў гэтым бачым запаведзь, што яна і да нас прыйдзе.

*І. Мелешка.*

## Цікавае выступленьне.

Той факт, што прэдстаўнікі вышэйшай духоўнай уласьці ў Віленскай дыэцэзіі, на жаль, ужо даўно пазбаўленай свайго галавы—біскупа, ўсе прыналежаць да абозу польскіх нацыоналістоў, тлумачыць зусім ясна, чаму тут не даюць ходу ані беларускай мові ў касьцелі, ані ксяндзом - беларусам. Бо, калі прыраўнуем палажэньне ў Віленшчыне, дзе беларусы перэважываюць, да палажэньня ў Ковеншчыне, дзе беларусоў — малая жменя, але затое біскуп—літвін, дык убачым, якая вялікая розніца ў адношэньні духавенства да беларусоў тут і там. У тым часі, як у Віленшчыне вышэйшые духоўные ўласьці заяўляюць, што тут «німа ксяндзоў, якіа ўмелі-бы па беларуску», а гэтые апошніе баяцца пярэчыць гэтаму, — у Ковенскай дыэцэзіі ксяндзы беларусы ня толькі не баяцца прызнавацца да беларушчыны, але нават выступаюць, як беларусы, зусім аткрыта і офіцыальна.

Цікавы прыклад гэтаго становіць прамова ксендза М. Далецкаго, пробашча у Скапішках, сказаная па беларуску на інгрэссе біскупа Карэвіча ў 1914 гаду. Яна памешчэна ў літоўскай кніжцэ «Jo Malonybe Naujas Žemaičių vyskupas Pranciškus Karevičius». (Kaunas 1914). Перэдруковываем гэту прамову даслоўна:

„У склад нашай дыэцэзіі ўходзіць, апрыч жмуйдіноў і літоўцоў, значнае чысло і другіх народнасьцёў: палякоў, беларусоў, латышоў і немцоў. Гэткая народ-

Фронт Леопольда Баварскаго: На ўсходзі ад Ліпніцы Дольнай, пры Нараёўцы, расейцы ўзарвалі мінай наш пярэдні акоп і шыбкім націскам занялі вырву. Контратакай мы яе адабралі назад. На палудні ад Бэрэжан пасьля сільнай падгатоўкі мінамётамі была зроблена ворагамі атака. Яна адкінута. У Вальні — удачные опэрацыі нашых патрулёў.

**Італьянскі тэатр**: У апошніе дні на паадзінокіх адрэзках фронту ў гарах крапчэла работа артылерыі. Італьянцы некольні разоў абстрэлівалі Тармс. На ўсходзі ад Монтэ Цэбіо сягоньня раніцай нашы патрулі ўзялі 22 палонных.

**Палудзенна-усходні (албанскі) тэатр**: Пры Воюзе — нічога выдатнаго.

ВЕНА 20.II. **Усходні тэатр**: (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр**: Учора паабедзі артылерыйскі агонь ворагоў крапчэў між Плаваю і морам. На тырольскім фронці артылерыя італьянцоў асабліва працавала між Торболе і Лопіо.

**Палудзенна-усходні (албанскі) тэатр**: На палудзенным усходзі ад Бэрату—патрульные сустрэчы.

ВЕНА 21.II. **Усходні і албанскі тэатр**: Без выдатных прыпадкоў.

**Італьянскі тэатр**: Артылерыйская бітва на прыморскім фронці была ізноў вострая. У начы самалёт ворагоў скінуў без ніякай удачы бомбы на нашы пазыцыі на Карсьце і на суседніе вёскі. На ўсходзі ад Монтэ Кадріа нашым кулемётным агнём збіт італьянскі самалёт.

---

## Разрыў між Амэрыкай і Нямеччынай.

ВЕНА. Тутэйшы амэрыканскі пасол аддаў у міністэрстві заграпічных спраў мэморандум, у каторым амэрыканскае правіцельство цьвёрда і становуча дамагаецца выясьненьня паглядоў аўстрыяцкаго ураду на падводную вайну.

ГААГА. Цераз іскровы тэлеграф даносяць, што абодва амэрыканскіе параходы: «Orleans» і «Rochester» выехалі з Нью-Іорку ў пояс блокады.

НЬЮ-ІОРК. Ня гледзячы на энэргічную пропаганду, у нью-іорнскім окрузі запісаліся дабравольцамі ўсяго 22 асобы.

ГААГА. Амэрыканскі сэнат прыняў праект закона, паводлуг каторага у прыпадку вайны ўсе чыгункі аддаюцца пад каманду ваеннай уласьці.

---

## БЛОКАДА АНГЛІІ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Статс-сэкрэтар заграпічных спраў, Цыммэрманн, сказаў у глаўнай камісіі Рэйхстагу, што ён „цьвёрда перакопан, што мы нашай падводнай вайной дойдзем намечанай мэты“.

Марскі статс-сэкрэтар у доўгай прамові сваей заявіў, што надзеі флоту на падводную вайну ня толькі збыліся, але былі меншые, чым здабытые на практыцэ рэзультаты. У Паўночным моры параходны рух зусім спыніўся. Надзеі, якіе нямецкі народ ускладаў на падводную вайну, зусім апраўдаліся.

Статс-сэкрэтар унутрэных спраў заявіў, што і з экономічнаго пагляду можна напэўна сказаць, што падводная вайна споўніць усе ускладаные на яе надзеі.

БАЗЭЛЬ. Французская марская камісія прыняла праект Лефэвра, каторы прызываў правіцельство плаціць паўмільёна франкоў за кожную зніштэную або здабытую падводную лодку ворагоў.

ПАРЫЖ. Французскіе газэты друкуюць спіс страт ад падводнай вайны за апошніе два дні. Яны даходзяць 36.823 тонн.

### Парыж без апалу.

БЭРН. «Journ. de Debats» даносіць:

На парыжскіх бульварах учора грамады людзей крычалі: «Вугля! вугля!» На вуліцы Chemin de Ferге народ узяў штурмам вялікі склад і разграбіў увесь апал.

### «Вайна да канца».

ЛОНДОН. Аўстралійскае правіцельство падалося ў адстаўку. Гыгс арганізаваў коаліцыйны габінэт, каторы, паводлуг яго слоў, споўніць жаданьне народу давясьці вайну да канца за ўселякую цэну.

### Адстаўка Вандэрвэльдэ.

БЭРЛІН. Як даносяць фламандзкіе газэты, бэльгійскі міністэр Вандэрвэльдэ, вядомы галава бэльгійскай соцыял-дэмократыі, выйшоў у адстаўку, бо зусім утраціў слух. Гэта — самы выдатны прамоўца ў Бэльгіі. На будучый час ён ня будзе больш выступаць, як прамоўца, а будзе занімацца толькі журналістыкай.

### Пазыція Гішпаніі.

МАДРЫД. Міністэр-прэзыдэнт Романонэс сказаў у Камэры, што нота з атказам Амэрыцэ і Нямеччыне ясна намечае палітыку правіцельства надалей. Кіраўнікі партій консэрватароў і рэспубліканцоў абяцаліся ў гэтай палітыцэ паддзержываць правіцельство.

### Італьянская пазыка.

РЫМ. На 5-працэнтную ваенную пазыку да 17 лютаго падпісаліся на 1740 мільёноў лір.

---

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

**З Вільні і Віленскай губэрні.**

### Табор для ваенна-палонных Sprottau.

Левіцкі Ян, Мегуцяны.
Гарузік Грыгор, Лапкі.
Бародзіч Кірыл, Завроткі.
Падчэпка Васіль, Касабукі.
Хвіс Андрэй, Філевічы.
Масінта Міхаіл, Вільня.
Вацэнко Іван, Прэны.
Вайда Сьцепан, Місукровіцы.
Рамановіч Бартламэй, Падзесяны.
Барбара Міхаіл, Васілеўшчына.
Асьцінкевіч Міхаіл, Балічы.
Барадаўка Александар, Салёная.
Вороніштаха Віктор, Кледзенат.
Шэмшур Пётр, Авечкі.
Грыбаноў Максім, Мельцаны.
Слуцкі Акім, Дворнае Сяло.
Дімэнштайн Янкель, Талькіноў.
Крывоносоў Арон, Сьвір.
Ташыш Шлёма, Шорбы.
Бэргер Абрам, Любкі.

### Offizier-Kriegsgefangenlager Reisen i. Posen.

Паруч. Здановіч Юльян, Вільня.

### Табор для ваенна-палонных Skalmiershütz.

Градэцкі Язэп, Поляна.
Ізэпскі Язэп, Лазенкі.
Радзевіч Франц, Дрэўня.
Марцінкевіч Станіслаў, Забеліны.
Нісэровіч Хаім, Ашмяна.

(Далей будзе).

---

## Апавешчэньне.

Ад 1 лютаго дапускаюцца прыватные пачтовые зносіны між землямі упраўленьня (Werwaltungsgebiet) Ob. Ost і Аўстрыі—з аднэй стараны і між Вэнгрыей і Босьніей-Гэрцоговінай—з другой. Да занятых аўстро-вэнгерскімі вайскамі варожых зямель (як генэрал-губэрнатарство Люблін і др.) гэта не адносіцца. У новых зносінах можна пасылаць у поўнасьці аплачэные аткрытые звычайные і заказные пісьмы, а так сама звычайные (не тэлеграфные) пачтовые перэказы грошы да 800 мр. маркамі або другімі адпаведнай вартасьці грашмі.

Пасылкі павінны быць напісаны ў мове нямецкай або вэнгерскай. Для адрэсоў можна ужываць шрыфт нямецкі або лацінскі. На адрэзках пачтовых перэказоў пісаць забаронено. Пачтовые перэказы у Аўстро-Вэнгрыю павінны высылацца ў кронах; падрахунак грошы паводлуг курсу робіцца на почці. Другіе правілы аб зносінах астаюцца тые, што і перш былі. Новые зносіны маюць аплачывацца паводлуг устаноўленай, ніжэй паказанай таксы:

### Такса аплаты:

| Чар. № | Род атпраўкі | Аплата | Увагі |
|---|---|---|---|
| 1 | Пісьмы<br>да 20 гр.<br>за кожные далейшые 20 гр. | <br>15 фэн.<br>5 „ | |
| 2 | Аткрыткі<br>звычайные або аткрыткі з атказам—за кожную часць асобне | 7½ ф. | |
| 3 | Друкі<br>да 50 г.<br>ад 50 да 100 г.<br>за кожные дал. 100 г. | <br>3 ф<br>5 „<br>5 „ | У 3 прыпадку найвышэйшая вага 2 кг. |
| 4 | Пробы тавароў<br>Кожные 50 г. | 5 ф.<br>ня менш 10 „ | К 4. Пры зносінах з Аўстрыей і Босніей-Гэрцэгов. найвышэйшая вага 500 г. пры зносінах з Вэнгрыей—350 г. |
| 5 | Дакумэнты<br>Кожные 50 г. | 5 ф.<br>наагул ня менш 20 „ | К 5. Найвышэйшая вага 2 кг. |
| 6 | Разам запакованые друкі, пробы тавароў або дакумэнты<br>за кожные 50 г. | 5 ф.<br>ня менш 10 „, калі атпраўка мае друкі і пробы тавароў<br>ня менш 20 „, калі дакумэнты | К 6. Найвышэйшая вага 2 кг. |
| 7 | Пачтовые перэказы | 20 „<br>за кожные 40 м, або часць гэтаго | |



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.